ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# КНІГА НОША

№ 50
чэрвень, 2018

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ **АЎТОГРАФ**

## Ганна КАНДРАЦЮК:

# «Песня – маё натхненне...»


фота www.racyja.com.

**– Шаноўная спадарыня Ганна, Вы апублікавалі ў тыднёвіку беларусаў у Польшчы «Ніва» больш за сотню літаратурных рэпартажаў з Падляшша, Беларусі, Украіны, Латвіі, Літвы, Малдовы, Славакіі, Канады. Нядаўна выйшла Вашая кніга рэпартажаў з Палесся «Па Прыпяці па Нобель». Што Вас найбольш уразіла падчас вандровак па ўкраінскай частцы Палесся?**

– Гэтая частка Палесся – я маю на ўвазе Валынскае і Сярэдняе Палессе – здаліся мне знаёмымі. Так прыблізна выглядала Падляшша ў гады майго дзяцінства. Для мне гэта была падвойная радасць, бо ўсюды я размаўляла на сваім старажытным дыялекце і людзі разумелі мяне з паўслова. Але не гэта прымушала вяртацца. На маім шляху выраставалі тэмы, які проста «прасілі» асвятлення. Уразіла мяне таксама тое, што гэтыя палешукі ведалі ўсё, што адбываецца ў Берасці ці Пінску, а тым часам берасцейцы, а таксама нашы падляшцы пра іх нават не чулі...

**– Вы журналістка, пісьменніца, спявачка. Як у Вас атрымліваецца сумяшчаць журналісцкую працу з пісьменніцкай? Распавядзіце, калі ласка, нашым чытачам, што ў Вашых найбліжэйшых творчых планах?**

– Я не ведаю, як мне гэта ўсё атрымліваецца і ўдаецца, бо рэдакцыйная праца займае ў мяне 24 гадзіны ў суткі. Сур'ёзна! Усё гэта яшчэ сніцца ўначы. Аднак калі ёсць магчымасць выдаць кніжку, тады знаходжу час і сілы, каб дадаткова папрацаваць. Спеў мяне не стамляе, наадварот, гэта маё натхненне і любоў. Пытаеце пра творчыя планы? Сёлета я атрымала творчую стыпендыю Маршалка Падляшскага ваяводства на рэпартажы пра гісторыю людзей і месцаў з Белавежскай пушчы. Гэтую тэму я пачала рэалізоўваць у 2008 годзе, а цяпер яе працягваю. Ці атрымаецца з гэтага новая кніжка – час пакажа.

*(Працяг на стар. 7)*

**Даведка «Кніганошы»:**

**Ганна Кандрацюк-Свярубская – журналістка, празаік, спявачка. Аўтар кніг «W stronę Tarasiewicza» (два выданні, 2002 і 2004), «Царская трызна» (2007), «Дзядоўскае турнэ з Анатолем С.» (2010), «Białoruś. Miłość i marazm» (2013), «Па Прыпяці па Нобель» (2017) і інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў вёсцы Кутлоўка ў гміне Нарва на Падляшшы. Жыве ў Беластоку.**

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Камоцкі Алесь. Не як так: выбранае. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 252 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 103).**

«Не як так» – зборнік найлепшых вершаў вядомага паэта і барда Алеся Камоцкага з кніг «Спроба ісці па расе» (1997), «Наспадзяванае» (2004), «48» (2007), «Глыбіня дажджу» (2007), «Навошта было мінулае» (2012), «Пераспевы» (2012) і «Забірай маё лета» (2017). Завяршае кнігу нізка новых твораў.




**Шапран Сяргей. У пошуках сэнсу: інтэрв'ю і дыялогі са Святланай Алексіевіч. – Смаленск: Інбелкульт, 2018. – 284 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 106).**

Інтэрв'ю і дыялогі Святланы Алексіевіч пра час і пра сябе, пра Беларусь і сусвет, пра настаўнікаў Васіля Быкава і Алеся Адамовіча, пра свае кнігі і іх галоўнага героя – маленькага чалавека Чырвонай утопіі – і ёсць зместам гэтай кнігі, якая пісалася-складвалася чвэрць стагоддзя і выходзіць да юбілею першага беларускага лаўрэата Нобелеўскай прэміі.




**Арлоў Уладзімер. Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань: балады. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 132 с. – (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 23).**

Балады Уладзімера Арлова, якія нарадзіліся на бязмежжы жанраў, лучыць асоба аўтара – паэта і гісторыка, вандроўніка і археолага ўласнай душы. Разам з аўтарам вас чакае падарожжа ў Грузію, Балгарыю, Італію, Чэхію, Літву, Украіну і, вядома ж, па Беларусі.




**Як укладалі «Спадчыну»: Да 135-годдзя ад нараджэння і 75-годдзя смерці Янкі Купалы. Уклад., падрыхтоўка тэкстаў, уступ. слова, агул. рэдагаванне Н. Гардзіенкі, Л. Юрэвіча; камент. Н. Гардзіенкі, Л. Юрэвіча. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 290 с.: [12] с. іл. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 35).**

Кніга «Як укладалі "Спадчыну"», трэцяя ў падсерыі «Спадчына: агледзіны» серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны» Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», уяўляе з сябе заснаваны на ліставанні аповед пра тое, як у 1950-я гады на Захадзе рыхтаваўся збор выбранай паэзіі Янкі Купалы. Захаваная ў архіве БІНіМа і перададзеная ў БДАМЛМ карэспандэнцыя ўкладальніка Вітаўта Тумаша і выдаўца Станіслава Станкевіча расказвае пра час і людзей, а таксама пра тыя складанасці, якія мусілі пераадолець эмігранты, каб у 1955 г. у Мюнхене ўбачыла свет унікальнае выданне твораў класіка.




**Масей Сяднёў: pro et contra. Уклад. Лявона Юрэвіча; рэд. і камент. Наталлі Гардзіенкі. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 148 с. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 36).**

На падставе ліставання і аўтарскіх тэкстаў у кнізе паўстае разнастайная і супярэчлівая постаць эміграцыйнага пісьменніка Масея Сяднёва. Аўтар-укладальнік – ньюёркскі архівіст Лявон Юрэвіч – скіроўвае погляд чытача на розныя аспекты жыцця і творчасці дзеяча.




**Гарэцкі Радзім. Апантаны Бацькаўшчынай. Жыццёвы меланж-2: публіцыстычныя артыкулы, лірычныя замалёўкі, мініяцюры, эсэ. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 504 с. [20] с.: іл.**

Акадэмік Радзім Гарэцкі, вучоны ў галіне навук аб Зямлі і грамадскі дзеяч, аўтар кнігі «Жыццёвы меланж» (2013), прапануе яе працяг, напісаны ў апошнія шэсць гадоў у той жа своеасаблівай жанравай форме. Гэтыя творы – падсумаванне думак, уражанняў, пачуццяў ад шматлікіх падзеяў у нашай краіне і свеце, юбілеяў і страт сяброў і блізкіх людзей (у тым ліку вядомых дзеячаў літаратуры, культуры, навукі), успамінаў пра жыццё і дзейнасць бацькі і дзядзькі – братоў Гаўрылы і Максіма Гарэцкіх, родных, некаторых момантаў асабістага жыцця і інш.




**Ясмінска Надзея.Чаму Меша не мае хаты?: казка. Маст. Кацярына Дубовік – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 36 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; выпуск 24).**

Хто ж такі Меша? Яго можна назваць беларускім бабайкам, бо некалі мамы і бабулі палохалі ім непаслухмяных дзяцей. Але адкуль у яго чорная поўсць, калючы нораў і, галоўнае, чаму Меша пакінуў сваю цёплую печку і цяпер не мае хаты? Маленькія і дарослыя слухачы могуць пра ўсё даведацца з казачнай гісторыі, якую раскажа і пакажа Надзея Ясмінска.




**Нурдквіст Свэн. Вандроўка Пэтсана. Мастак Свэн Нурдквіст; пераклад са шведскай Надзеі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 26 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; выпуск 25).**

Коцік Фіндус знайшоў намёт на гарышчы, і Пэтсан узгадаў, як ён вандраваў, калі быў малады. І вось Фіндус, Пэтсан і куры спрабуюць выправіцца ў вандроўку, але ці атрымаецца ў іх?..

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Алесь Кіркевіч. Самурай: апавяданні – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 144 с.**

Свет перапоўнены інфармацыяй, а чалавек не адчувае «інфармацыйнага голаду», каб чытаць вялікія кніжкі. Таму шанец застаецца адно ў паэзіі ды кароткіх празаічных тэкстаў. Туды, нібы ў мікрачып, можна запісаць максімум эмоцыяў – каханне, страх, роспач. З імі ды іншымі рэфлексамі спрабуе гуляць аўтар у сваім дэбютным зборніку. Большасць твораў ужо бачылі свет на старонках газеты «Наша Ніва», цяпер яны ўпершыню сабраныя пад адной вокладкай.




**Кандрацюк Ганна. Па Прыпяці па Нобель. – Беласток: Праграмная рада тыднёвіка «Ніва», 2017. – 300 с.**

Гэтая незвычайная кніга нарадзілася падчас падрожжаў журналісткі беластоцкага тыднёвіка «Ніва» Ганны Кандрацюк-Свярубскай да вытокаў апетай беларускімі класікамі славутай Прыпяці. Аказваецца, каб трапіць у свет адкрыццяў і дзівосаў, не абавязкова выпраўляцца за далёкія моры ды акіяны. Чароўнае, казачнае, неверагоднае і абсалютна невядомае нам Палессе агаломшыць вас сваёй фантастычнай рэальнасцю і магічнай аўтэнтычнасцю. Яно зусім побач, аднак мы зусім нічога не ведаем пра мінулае і сённяшняе жыццё ягоных жыхароў, іх мову і звычаі, што захаваліся з даўніх часоў да нашых дзён. Дзякуй спадарыні Ганне за гэтую мудрую і захапляльную журналісцкую вандроўку і знаёмства з найцікавейшым ды найпрыгажэйшым краем, такім блізкім нам і прыцягальным. (Барыс Пятровіч)




**Макмілін Арнольд. Адмова ад традыцыі: Кароткая беларуская проза на пачатку XXI стагоддзя. Пераклад з ангельскае. – Вільня: Логвінаў, 2018 – 120 с.**

У сваёй найноўшай манаграфіі вядомы брытанскі даследчык беларускай літаратуры прафесар Арнольд Макмілін аналізуе кароткую беларускую прозу на падставе кніг, выдадзеных на пачатку XXI ст.




**Лявонны Юрка. Пералівы: выбраныя вершы. Уклад. і прадм. Віктара Жыбуля. – Мінск: Галіяфы, 2018. – 128 с. – («Святлацені»; вып 1).**

Юрка Лявонны (1908–1937) – цікавы паэт міжваеннага перыяду, актыўны ўдзельнік вядомага літаратурнага згуртавання «Маладняк», чые творы не выходзілі асобным выданнем больш за паўстагоддзя. У гэтую кнігу ўвайшлі вершы як уключаныя аўтарам у прыжыццёвыя зборнікі, так і тыя, што друкаваліся толькі ў газетах і часопісах. Упершыню публікуецца аўтабіяграфічная характарыстыка Ю. Лявоннага, напісаная на золку творчага шляху, у траўні 1926 г.




**Ястраб Фёдар. Маленне агню і ветру: санеты. У 5 т. Т. 5. – Мінск: Галіяфы, 2018. – 160 с. [8] арк. каляр. іл.: іл.**

Фёдар Ястраб (Франц Адамавіч Ястраб, 1953–2014) пакінуў пасля сябе багатую творчую спадчыну як вядомы дзеяч культуры, мастак, мастацтвазнаўца і таленавіты паэт. Унікальнасць яго паэтычнага дару ў тым, што ён праявіўся ў перадапошні год яго жыцця. Цяжкая хвароба адкрыла яшчэ адну старонку яго таленту – вершаскладанне. Напісана амаль тысяча вершаў. Гэта пяць тамоў санетаў, адзін з найбуйнейшых санетарыяў краіны. Вынік гэтага незвычайнага дару перад вамі. Дасканаласць і выразнасць думкі і вобраза, філасофская напоўненасць рыфмы адкрываюць для чытача рамантычнага, але ў той жа час і вельмі сур'ёзнага паэта. У зборнік санетаў уключаны рэпрадукцыі карцінаў Фёдара Ястраба.




**Кулон Антон. Сіняя кніга беларускага алкаголіка ПЛЮС. – Мінск: Галіяфы, 2018. – 390 с.**

Чаму ж людзі п'юць? Чаму піў я? І што такое п'янства? Я мяркую, што п'янства – гэта шуканне духоўнасці, шуканне іншага духоўнага стану, бо існы не здавальняе нас. Але жыццё з алкаголем – асаблівы шлях. Алкаголь дорыць збавенне і радасць, ён прыносіць пакуты і гора і, урэшце, прыводзіць смерць. Я спрабую глянуць па-новаму на гэты асаблівы шлях і на людзей, якія ідуць той цяжкай, сапраўды ваеннай дарогай. Пара адкінуць замшэлыя, стэрэатыпныя погляды на алкагольную праблему ды зразумець: алкагольная залежнасць – гэта сур'ёзнае захворванне, алкаголік – гэта не нейкі там чужы, сметнікавы бомж, а ваш блізкі сябра, ваш знаёмы пісьменнік, мастак, славуты рок-музыка і оперны спявак.




**Златковская Анна. Страшно жить, мама: повесть. – Минск: А.Н. Янушкевич, 2018. – 140 с.: ил.**

Гэта гісторыя пра маці і яе дачку Анжаліку. Дзве страчаныя душы, дзве адзіноты. Мама ў пошуках шчасця і кахання, у бясконцым страху за сваю дачку. Яна – звычайная жанчына, тая, што спрабуе адна выхоўваць дачку, тая, што адчайна чапляецца за мужчынаў, з якімі сутыкае яе лёс. Яна не заўважае, як моцна маленькая дзяўчынка пераймае мамчыны страхі і ўбірае іх у сябе...



**Бацкель Аляксандр. Квадратурынавы маёнтак. – Вільня: Логвінаў, 2017 – 121 с.**

Трэцяя кніга з жыцця ў ізаляцыі, у якой адбываецца пашырэнне сцэнаў маёнтка, спроба ўцёкаў і эксперыменты з формай. «Квадратурынавы маёнтак» складзены са сто аднаго тэксту, кожны тэкст мае свае абмежаванні па колькасці словаў – іх не больш за сто на кожнае апавяданне. Кніга даследуе наваколле, пачуцці, стыхіі, асэнсоўвае падарожжы. Рэкамендаваная да чытання па адной старонцы на дзень.




**Аркуш Алесь. Спадчына: раман. – Полацак: Выдавецкая ініцыятыва «Полацкае ляда», 2018. – 148 с.**

Мінулае ўвесь час пераўтвараецца, услед за зменамі, якія адбываюцца з чалавекам. Дакладней, у чалавека змяняецца ўспрыманне свайго мінулага. Высвятляюцца ўсё новыя і новыя акалічнасці, якія ўплывалі на ход жыцця. Па-іншаму вызначаюцца галоўныя і другасныя падзеі. Новы, пяты па ліку, раман Алеся Аркуша вельмі асабісты для аўтара. У ім ён шукае адказы на пытанні спадчыннага ўплыву на чалавечыя лёсы, а таксама жыццёвага наканавання і таямніцаў сувязі з мінулым. У рамане ўсе героі – рэальныя асобы, але не ўсе падзеі насамрэч мелі месца. Хаця аўтар не выключае, што так магло быць на самай справе.




**Кёльмаер Міхаэль. Дзяўчынка з напарсткам: раман. Пер. з ням. Ірыны Герасімовіч. – Мінск: Галіяфы, 2018. – 124 с.**

Галодная дзяўчынка прыходзіць у краму. Яна не разумее нічога з таго, што ёй кажуць, але на слове «паліцыя» пачынае крычаць. Хто яна і адкуль? Як завецца? «Йіца», – кажа яна, хоць ведае, што Йіца – гэта не імя. Пазней у прытулку яна сустрэне двух хлапчукоў: Шамхан з Арыянам такія ж нічыйныя дзеці, як і яна сама. Разам яны выправяцца шукаць сабе месца ў невядомым горадзе. У цэнтры ўвагі Міхаэля Кёльмаера такія базавыя тэмы, як цялеснасць, мова, повязі між людзьмі. «Дзяўчынка з напарсткам» – гэта аповед не толькі пра жыццё на задворках грамадства, але і пра чалавечае быццё наагул.




**Бэлэй Лэсь. Ліхія дзевяностыя: любоў і нянавісць у Ужгарадзе. Пер. з укр. Л. Наліўка. – Вільня: Логвінаў, 2018 – 298 с.**

Лэсь Бэлэй – сучасны ўкраінскі паэт, публіцыст, кандыдат філалагічных навук, спадчынны мовазнаўца. «Ліхія дзевяностыя. Любоў і нянавісць у Ужгарадзе» – яго першая рэпартажная кніга. Гэта спроба культуралагічнага нарысу эпохі дзевяностых: трансфармацыі, дэфіцыт, дзікі капіталізм, спосабы выжывання, крымінал, кантрабанда, з'яўленне поп-культуры... Кніга – суплёт гісторыяў на зломе эпохаў, вядомы і зразумелы таксама і беларусам.



**Паланюк Чак. Байцоўскі клуб. Пер. з англ. Сяржа Мядзведзева. – Вільня: Логвінаў, 2018. – 444 с.**

Першае правіла БК – не казаць пра БК. І калі ты трымаеш у руках гэтую кнігу – значыцца нехта яго парушыў. Думаеш, мы тут проста б'ем адно аднаму морды? Памыляешся. Сэнс не ў бойцы. А ў тым, хто ты, калі выходзіш на бой. У тым, з чым ты насамрэч б'ешся. З кім ты насамрэч б'ешся. Нідзе не адчуваеш сябе настолькі жывым, як на БК. Тут усе мы – не тыя, хто ў рэальным жыцці. Мы сапраўдныя. Свабодныя. Шчаслівыя. Ведаеш, чаму? Не? Прачытаеш – дазнаешся. Толькі нікому пасля не кажы, згода?




**Пясецкі Сяргей. Яблычак. Пер. з польск. Віктара Шукеловіча. – Вільня: Логвінаў, 2018. – 266 с.**

«Яблычак» – першы раман з «Менскай трылогіі» Сяргея Пясецкага, слыннага польска-беларускага празаіка. Аўтар з уласцівай яму каларытнасцю распавядае пра закрытае і поўнае таямніцаў зладзейскае асяроддзе Менска пачатку XX стагоддзя. Дзеянне ў рамане разгортваецца ранняй вясною 1918 года, калі Першая сусветная вайна пераўтварыла Менск у прыфрантавы горад, куды з усіх канцоў Еўропы і былой Расійскай імперыі з надзеяй на хуткі заробак сцягнуліся злодзеі, прастытуткі і махляры. Раман, які спалучае гумар і трагізм, апісвае зладзействы і ўнутраны свет злачынцаў, захапляе з першых старонак, трымаючы ў напружанні да апошняга сказа.




**Анатоль Кудласевіч. ТрыТворы (зборнік прозы і паэзіі) – Дніпро: Середняк Т.К., 2017. – 316 с.**

У кнігу ўваходзіць новы раман «Тараканы», які пісаўся цэлых 26 гадоў. Чаму так доўга? Прычыны не да канца зразумелыя і самому аўтару. Аповесць «Жэзл Жалезны» ідэйна звязаная і з раманам, і з паэмай «Юл-ла», была напісана за дзевяць дзён, летам 1999 года, і ў гэтым жа годзе прагучала па радыё ў аўтарскім выкананні. Творчасць Анатоля Кудласевіча не пакідае чалавека абыякавым. Празаік, паэт, бард – ён падштурхоўвае да пошуку адказаў на вечныя пытанні: хто мы? адкуль прыйшлі? дзеля чаго жывём? куды адыдзем пасля смерці? Зборнік «ТрыТворы» разлічаны на шырое кола чытачоў.




**Басё Мацуа. Выбраныя хайку. Пер. з японскай Алеся Разанава. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2018. – 100 с. (Паэты планеты).**

Мацуа Басё (1644–1694) – японскі паэт, адзін са стваральнікаў хайку, які зрабіў неацэнны ўклад у развіццё эстэтыкі гэтага паэтычнага жанру.




**Эмінэску Міхай. Выбраная паэзія. Пер. з румынскай. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 108 (Паэты планеты).**

Міхай Эмінэску (1850–1889) – самы вялікі паэт у гісторыі румынскай літаратуры. На яго творчасць велізарны ўплыў мелі нацыянальная міфалогія і фальклор, а таксама філасофскія сістэмы Артура Шапенгаўэра і асобных мысляроў Усходу.




**Мельнікаў Ігар. Забыты корпус: гісторыя польскага войска на тэрыторыі Бабруйшчыны ў 1918, 1919–1920 гадах. – Мінск: Альфа-кніга, 2018. – 224 с.**

Аўтар, на падставе багатай архіўнай базы і з выкарыстаннём шматлікіх унікальных здымкаў раскрывае гісторыю фарміравання і дзейнасці Першага Польскага корпуса ў Бабруйску ў 1918 годзе, а таксама падрабязна апісвае аспекты гісторыі польска-бальшавіцкай вайны 1919–1920 гадоў на тэрыторыі Бабруйшчыны. Акрамя гэтага, вялікая ўвага ў кнізе нададзена гісторыі стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі і аналізу стасункаў паміж польскімі войскамі і беларускімі ўладамі, а таксама мясцовым насельніцтвам.




**Лаўрэш Леанід. Генерал, які дайшоў да Беларусі. Жыццяпіс Кіпрыяна Кандратовіча. – Гродна: ЮрСаПрынт, 2018. – 154 с.**

Кніга з'яўляецца вынікам амаль што дваццацігадовых пошукаў інфармацыі пра выбітнага дзеяча БНР Генерала ад інфантэрыі, Кіпрыяна Антонавіча Кандратовіча (1859–1932). Кніга будзе цікавай аматарам біяграфіяў, краязнаўцам і прафесійным гісторыкам, а таксама ўсім чытачам, якія цікавяцца беларускай мінуўшчынай.




**Сулея Уладзімеж. Юзаф Пілсудскі. Пер. з пол. Я. Салейчука. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 354 с.**

Кніга вядомага даследчыка гісторыі Польшчы XX ст., прафесара Уладзімежа Сулеі прысвечана асобе Юзафа Пілсудскага – дзяржаўнага і ваеннага дзеяча, якому было наканавана стаць на чале барацьбы за аднаўленне дзяржаўнасці Польшчы на пачатку мінулага стагоддзя. Біяграфія легендарнай постаці напісана на падставе шырокага кола гістарычных даследаванняў, а таксама працаў публіцыстаў і сведчанняў людзей, лёсы якіх перакрыжаваліся з жыццёвым шляхам Пілсудскага. Былі выкарыстаны таксама звесткі, якія пакінуў сам герой кнігі, і, зразумела, дапамаглі ўласныя даследаванні аўтара, якія праводзіліся ў айчынных і замежных архівах і бібліятэках.




**Сяргей Абламейка. Нечаканы Скарына. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе) – Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. – 328 с.: іл.**

Кнігу складае аўтарскае эсэ ў 25 частках «Нечаканы Скарына», у якім прадстаўлены новы погляд на асобу Францыска Скарыны і арыгінальныя гістарыясофскія канцэпцыі для разумення яго дзейнасці, даробку і шчыльных сувязяў з італьянскім Рэнесансам. Другую частку кнігі складаюць аўтарскія інтэрв'ю з беларускімі, аўстрыйскімі, італьянскімі, польскімі, французскімі і чэшскімі навукоўцамі, якія расказваюць пра эпоху Скарыны і новыя знаходкі ў скарыназнаўстве.




**Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. №39. – Навукова-папулярны альманах аб беларускай эміграцыі. – Belarusan Institute of Arts and Sciences: New York–Miensk, 2017. – 778 с.**

Новы нумар альманаха «Запісы БІНіМ» прысвечаны беларуска-італьянскім культурным і чалавечым кантактам. У выданні змешчаны матэрыялы да жыцця і творчай спадчыны заснавальніка беларускай рэдакцыі Радыё Ватыкана, выдаўца беларускага часопіса ў Італіі «Зьніч» прэлата Пётры Татарыновіча, лісты беларусаў, што жылі ў Італіі ў другой палове XX ст., і іншыя тэксты, прысвечаныя сувязям паміж беларускай і італьянскай літаратурамі.




**Ваенныя трыумфы Вялікага Княства Літоўскага: зборнік навуковых артыкулаў/Установа «Музей «Замкавы комплекс «Мір», Польскі інстытут у Мінску; навук. рэд. М.Н. Гальпяровіч. – Мір: Музей «Замкавы комплекс «Мір», 2018. – 304 с.: іл.**

Зборнік навуковых артыкулаў складзены па выніках міжнароднай навуковай канферэнцыі, якая адбылася ў Мірскім замку 12–13 верасня 2014 года. Разглядаецца шырокае кола пытанняў, прысвечаных ваенным аспектам эпохі ВКЛ у тым ліку: новыя факты і інтэрпрэтацыі бітваў і ваенных аперацыяў з удзелам войска ВКЛ; задзейнічанасць замкаў і крэпасцяў у забеспячэнні ваенных перамог ВКЛ; прапагандысцкая і ідэалагічная праца па выкарыстанні вынікаў ваенных перамог ВКЛ у дзяржаўна-палітычных і саслоўна-прыватных інтарэсах; уплыў ваенных перамог ВКЛ на развіццё міжнародных адносінаў у рэгіёне. Выданне будзе цікавае навукоўцам, выкладчыкам, музейным спецыялістам, студэнтам, а таксама ўсім, хто цікавіцца эпохай Вялікага Княства Літоўскага.




**Донских Сергей. Гродненская военная кампания 1705–1706 гг. – Мир: Музей «Замковый комплекс «Мир», 2017. – 410 с., [2] л. ил.**

Манаграфія раскрывае шырокае кола пытанняў, звязаных з малавывучаным этапам Паўночнай вайны 1700–1721 гг. – Гродзенскай ваеннай кампаніяй 1705–1706 гг. Падрабязна аналізуюцца ход баявых дзеянняў, склад узброеных сілаў супернікаў, роля саюзнікаў ва ўзброеным супрацьстаянні Расіі і Швецыі, значэнне ваеннай кампаніі для ўсяго ходу Паўночнай вайны. Кніга разлічана як на адмыслоўцаў, так і на ўсіх, хто цікавіцца ваеннай гісторыяй Усходняй Еўропы.




**Дрозд Зміцер. Бунт батанікаў: дзённік. – Мінск, 2017. – 258 с.: іл. – (Серыя «Беларуская турэмная літаратура»; вып. 1).**

Беларуская турэмная сістэма практычна закрытая ад грамадскасці. Толькі той, хто асабіста прайшоў праз турэмнае зняволенне, ведае, у якіх умовах і па якіх законах жывуць асуджаныя. У сучаснай Беларусі крымінальны пераслед выкарыстоўваецца ўладамі як сродак пакарання грамадскіх актывістаў, прадстаўнікоў апазіцыйных колаў за іх дзейнасць. Палітзняволеныя ў Беларусі, паводле савецкіх традыцыяў, у турмах пераследуюцца адмыслова. Важна захаваць і данесці да беларускага грамадства сведчанні ахвяраў палітычных рэпрэсіяў. Беларуская сучасная гісторыя працягаецца і за турэмнымі мурамі.

Дзённік Змітра Дразда «Бунт батанікаў» – першая дакументальная кніга выдавецкай серыі «Беларуская турэмная літаратура». Яе аўтар з'яўляецца адным з палітычных зняволеных, якія трапілі за краты пасля акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў, якая адбылася 19 снежня 2010 года. Дзённік вёўся на працягу амаль сямі месяцаў: з першых дзён затрымання 19.12.2010 і да самага вызвалення. Мова арыгінала захаваная, іншыя тэксты Змітра Дразда, уключаныя ў кнігу, былі напісаныя пазней пабеларуску альбо перакладзеныя на беларускую мову.




**Аліневіч Ігар. Еду ў Магадан: успаміны. – Мінск, 2017. – 252 с.: іл. – (Серыя «Беларуская турэмная літаратура»; вып. 2).**

Ігар Аліневіч нарадзіўся ў 1983 годзе. Са школьных гадоў цікавіўся гісторыяй, асабліва анархісцкага руху, чытаў працы і вывучаў жыццё ягоных заснавальнікаў, тэарэтыкаў і практыкаў. Па адукацыі інжынер-электроншчык. Удзельнічаў у працы над расійска-беларускім спадарожнікам. Быў абвінавачаны ў нападзе на амбасаду РФ у Мінску і ва ўдзеле ў іншых акцыях анархістаў. 27 траўня 2011 года асуджаны да 8 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй аўтамабіля, атрымаў найбольшы тэрмін зняволення з усіх палітвязняў за ўсю найноўшую гісторыю Беларусі. Вызвалены 22 жніўня 2015 года згодна з падпісаным прэзідэнтам Беларусі ўказам аб памілаванні.

Рукапіс дзённіка, напісаны ў турме КДБ, разам з іншымі артыкуламі Ігар Аліневіч здолеў перадаць на волю, і ў сакавіку 2013 года намаганнямі выдавецтва «Радыкальная тэорыя і практыка» выйшла кніга «Еду ў Магадан». Яе невялікі наклад разышоўся вельмі хутка, іншыя выдаўцы другое выданне зрабілі няпоўным – без некаторых артыкулаў. У снежні 2013 года Ігар Аліневіч з кнігай «Еду ў Магадан» стаў першым лаўрэатам Прэміі імя Францішка Аляхновіча, заснаванай Беларускім ПЭН-цэнтрам сумесна з Радыё Свабода за найлепшы твор, напісаны ў зняволенні. Кніга перакладзеная на іншыя еўрапейскія мовы – англійскую, нямецкую, польскую, чэшскую, французскую, іспанскую. Беларускі пераклад дзённіка друкаваўся ў газеце «Новы час». Асобнае выданне кнігі Ігара Аліневіча «Еду ў Магадан» на беларускай мове выходзіць упершыню і дапоўнена новымі артыкуламі аўтара, напісанымі пасля вызвалення.




**Полак Марцін. Затушаваныя краявіды. Пераклад з нямецкай мовы Веры Дзядок. – Смаленск: Інбелкульт, 2018. – 112 с.**

Кніга аўстрыйскага пісьменніка і рэпарцёра Марціна Полака прысвечана праблемным аспектам культуры памяці ў грамадствах Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. У Беларусі, Украіне, Славеніі, Польшчы, Аўстрыі і іншых краінах існуе бясконцая колькасць масавых пахаванняў, не ўшанаваных як след. Больш за тое, многія масавыя магілы, дзе ляжаць цэлы ахвяраў, забітых без суда і следства камуністычнымі або нацысцкімі катамі, нават не пазначаныя ў публічнай прасторы. Прыгожыя краявіды гэтых краінаў хаваюць у сабе сляды масавых забойстваў, якія выпадкова можна выявіць нават і сёння. Пакуль памяць пра гэтых ахвяраў не будзе вернута, а месцы іх пахаванняў не будуць увекавечаныя, гэтая страшная, крывавая гісторыя можа даваць рэцыдывы і ў нашы дні.




**Стурейко Степан. Беспокойные камни. 9 эссе для нового понимания архитектурного наследия. – Гродно: ЮрСаПринт, 2017. – 288 с.**

Вакол архітэктурнай спадчыны ідуць гарачыя спрэчкі. Чаму мы, упэўненыя што помнікі трэба берагчы, так часта іх страчваем? Як выходзіць, што прафесіяналы ад аховы і рэстаўрацыі на важныя пытанні адказваюць процілегла? І чаму не атрымліваецца зрабіць «як у Еўропе»? Здаецца, што ахова помнікаў даўно ператварылася ў пагоню за міражамі. Спадчына застаецца полем канфліктаў, не рэалізуе свой патэнцыял і хутчэй абцяжарвае рух наперад. Мы проста не ўмеем ёй карыстацца! Кніга прысвечана пастаноўцы дыягназу. Мы разгледзім асноўныя праблемы аховы і рэстаўрацыі і паспрабуем сфармуляваць контуры будучыні.




**Зусім іншы горад. Уклад. А.Ф. Вашкевіч, Т.У. Касатая. – Гродна: ЮрСаПрынт, 2017. – 154 с.**

У кнізе змешчаны ўспаміны 23 сведак, у асноўным ураджэнцаў Гродна і найбліжэйшых ваколіцаў. Цэнтральнымі тэмамі ўспамінаў з'яўляюцца гарадская штодзённасць у міжваенны час, падзеі Другой сусветнай вайны, сацыяльныя і палітычныя змены ў першай палове XX ст.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:

**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademknigaminsk@mail.ru, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43, **«Кнігарня пісьменніка»** (вул. Казлова, 2), **«Веды»** (вул. К. Маркса, 36), **«Светач»** (пр-т Пераможцаў, 11), **«Цэнтральны кніжны»** (пр-т Незалежнасці, 19), **«Кніжная Шафа»** (пр-т Дзяржынскага, 9), **«Кнігі & кніжачкі»** (пр-т Незалежнасці, 14), **Кніжная выстава-кірмаш «Мир книг»** (пр-т Пераможцаў, 84).

А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, januskevic.by, kniharnia.by і halijafy.by.

■ ІМПРЭЗЫ

# Еўрапейская Пісьменніцкая Рада ў Мінску

**3-4 чэрвеня ўпершыню не толькі ў Беларусі, але і на постсавецкай прасторы, прайшла Генеральная асамблея Еўрапейскай Пісьменніцкай Рады (European Writers’ Council). У паседжанні асамблеі ўзялі ўдзел 32 прадстаўнікі пісьменніцкіх арганізацый з Англіі, Беларусі, Германіі, Даніі, Ісландыі, Іспаніі, Каталоніі, Кіпра, Латвіі, Нарвегіі, Славеніі, Фінляндыі, Харватыі, Швецыі, Эстоніі.**



Старшыня ГА Саюз беларускіх пісьменнікаў Барыс ПЯТРОВІЧ, перакладчыца Наста ЛАБАДА, прэзідэнт Еўрапейскай Пісьменніцкай Рады Гунар АРДЭЛІУС.

Гэтая асацыяцыя існуе з 1977 года і ўсяго аб’ядноўвае 44 літаратурныя арганізацыі Заходняй і Цэнтральнай Еўропы. Асамблея ўпершыню праходзіць на постсавецкай прасторы. ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» з’яўляецца праўдзейным чальцом Еўрапейскай Пісьменніцкай Рады з 2010 года.

З прывітальным словам да замежных гасцей і расповедам пра дзейнасць СБП выступілі старшыня арганізацыі Барыс Пятровіч (Сачанка) і сакратар Сюзанна Паўкштэла.

Другі дзень працы Генеральнай асамблеі Еўрапейскай Пісьменніцкай Рады (European Writers’ Council) распачаўся з дыялогу старшыні ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Барыса Пятровіча (Сачанкі) з прэзідэнтам EWC Гунарам Ардэліусам. У гутарцы, да якой далучыліся ўсе прысутныя замежныя ўдзельнікі кангрэсу, закраналіся пытанні аўтарскага права ў Беларусі, статусу пісьменніка і становішча беларускай мовы ў нашай краіне, кнігавыдавецкая справа, наладжванне міжкультурнага супрацоўніцтва і ўзаемныя пераклады мастацкай літаратуры...

Саюз беларускіх пісьменнікаў прадставіў гасцям зборнік-білінгву «Зацішша не было: Беларуская паэзія новай генерацыі» – пераклады сучаснай беларускай паэзіі на англійскую мову – укладальнікам і аўтарам прадмовы якога стаў крытык Ціхан Чарнякевіч. У брашуру ўвайшлі вершы 9 паэтаў і паэтак 1980-х гадоў нараджэння, што прэзентуюць, паводле словаў спадара Ціхана, «пакаленне антыманіфесту» ў беларускай літаратуры.

Са сваімі вершамі ў арыгінале і ў перакладзе выступілі пяцёра аўтараў: Ганна Комар, Наста Кудасава, Таццяна Нядбай, Віталь Рыжкоў, Віка Трэнас. Яшчэ чацвёрка, якая ўвайшла ў кнігу: Андрэй Адамовіч, Ірына Бельская, Марыя Мартысевіч, Вальжына Морт.

Тэксты на англійскую мову для зборніка перастварылі: ужо згаданыя Ганна Комар і Вальжына Морт, Хілары Шырз, рэдагаваў пераклады Джым Дынглі. Кожны з удзельнікаў асамблеі атрымаў новы зборнік у падарунак.



Віталь РЫЖКОЎ.



Наста КУДАСАВА.

**Прэс-служба**
**ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў»**

■ АЎТОГРАФ

# «Песня – маё натхненне...»

*(Пачатак на стар. 1)*

**– Вы праводзіце «Сустрэчы “Зоркі”» – семінары па журналістыцы для дзяцей і моладзі, рэдагуеце дадатак «Зорка» да тыднёвіка «Ніва». Якія пытанні найчасцей задаюць Вам падчас семінараў? Што Вы параіце тым, хто робіць першыя спробы ў журналістыцы, у літаратуры?**

– Моладзь заўсёды пытае пра адно – што рабіць, каб добра пісаць? Адказ тут, вядома, таксама адзін. Трэба чытаць іншых! Важна практыкавацца, пісаць. Хоць тут заўсёды бываюць сюрпрызы, нехта маўчыць тры-чатыры гады, а пасля пачынае добра пісаць.

**– Якую кніжку (кніжкі) Вы цяпер чытаеце? Якую кнігу (кнігі) з тых, што Вы прачыталі нядаўна, параілі б чытачам «Кніганошы»?**

– Учора, пры нядзелі, прачытала «Затушаваныя краявіды» Марціна Полака ў беларускім перакладзе Веры Дзядок. Звычайна чытаю адразу некалькі кніжак. Актуальна на маім стале раскрытыя новыя апавяданні Анджэя Стасюка «Kroniki beskidzkie i światowe», а таксама гістарычны рэпартаж Хэмптана Сайдса (Hampton Sides) «Krew i burza. Historia z Dzikiego Zachodu», гэта пра заваёву Дзікага Захаду ў Паўночнай Амерыцы. Сярод беларускіх кніг, якія мне найбольш спадабаліся ў апошні час, – паэтычны том Валянціны Аксак «Завінены рай». Уразіла сувязь лірычнага героя са светам раслін. І духовая моц пераказу, якая нясе дар ачышчэння.

## «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Ксенія Шталенкова. Губернскі дэтэктыў. Справа аб крывавых дукатах. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 216 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх шсьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 101).** «Губернскі дэтэктыў» – другая кніга Ксеніі Шталенковай. Яна была створана ў межах праекта «Школа маладога пісьменніка: Другі год» (2016–2017 гг.) пры падтрымцы Саюза беларускіх пісьменнікаў. Калі ў папярэднім кнізе «Адваротны бок люстра» Ксенія перанесла чытачоў у Вільню, то ў новай кнізе падзеі адбываюцца ў 1875 годзе ў Мінску. Як патлумачыла аўтарка, яна даведалася пра некаторыя здарэнні, якія адбываліся ў Мінску ў XIX стагоддзі, у прыватнасці, пра фальсіфікацыю манет. Гэта і стала зачэпкай для напісання твору. Рэдактарка кнігі Людміла Рублеўская ўпэўнена, што новая кніга Ксеніі Шталенковай ёсць пачаткам новай дэтэктыўнай серыі. Нездарма ў канцы твора стаіць не кропка, а пытальнік.




**Алесь Разанаў. Невядомая велічыня: гутаркі, артыкулы, згадкі. – Мінск: Логвінаў, 2017. – 254 с.**

У новай кнізе Алеся Разанава сабраныя гутаркі, артыкулы, зацемкі (успаміны пра знакавых для аўтара людзей, водгукі на кнігі, юбілейныя зацемкі), выступы розных гадоў. Цэнтральнае месца займаюць інтэрв'ю (першае датуецца 1979 годам, апошняе – 2013-м), у якіх паэт прагаворвае важныя і важкія рэчы – пра з'яву творчасці, пра Шлях і пакліканне, пра досвед жыцця ў замежжы, і, вядома ж, – пра «прызначэнне паэзіі». Жанрава «Невядомая велічыня» – працяг кнігі «З апокрыфа ў канон» (2010). Завяршаюць кнігу два тэксты, жанр якіх сам аўтар акрэслівае як «герменеўтычныя паэмы», знаёмыя чытачам «Дзеяслова». У адсутнасці акадэмічнага літаратуразнаўства Алесь Сцяпанавіч, фактычна, займаецца амаль навуковым разборам паэтыкі вершаў Алеся Пісьмянкова і Міхася Стральцова.




**Зьбігнеў Уладзімеж Фрончак. Анёлы, чэрці і кабеты: апавяданні. – Брэст: Альтэрнатыва, 2017. – 224 с.**

У зборнік вядомага польскага пісьменніка Збігнева Уладзімежа Фрончака, перакладзенага Паўлам Ляхновічам, уключаныя апавядані, што прымушаюць чытача думаць – пра хуткаплыннае жыццё, пра сваю місію ў ім, пра каханне і нянавісць, пра добрае і ндобрае... Дыхтоўна аздоблены, зборнік выдадзены пры падтрымцы горада Люблін у межах святкавання 700-годдзя слаўнага горада. За гэтую кнігу Павал Ляхновіч атрымаў прэстыжную Міжнародную літаратурную прэмію імя Юзафа Лабадоўскага.

## КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ІП «Уладзімір Сіўчыкаў»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга ноша
№ 50
чэрвень, 2018
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 450 25.06.2018.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com